З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Мікола СТАТКЕВІЧ: «Людзі хочуць мяне бачыць, і ўлада гэта ведае»

*Былы палітвязень Мікалай Статкевіч распачаў серыю паездак па рэгіёнах Беларусі. Ён ужо наведаў Гомель і Магілёў. Наперадзе – Гродна і Барысаў. Афіша сустрэч пастаянна абнаўляецца.*

*Некаторыя заўважаюць, што на сустрэчы з палітыкам, які мае намер вылучацца ў прэзідэнты незарэгістраваным Беларускім нацыянальным кангрэсам, прыходзіць няшмат людзей. Пра гэта, між іншым, сведчаць і некаторыя фотаздымкі, якія сам Статкевіч выкладвае ў сацыяльных сетках.*

*Тыя, хто не вельмі сімпатызуе апазіцыйнаму палітыку, кажуць: хіба можна казаць, што Статкевіч сустракаецца з народам? Піар! Усё дзеля птушачкі робіцца!*

*«Народная Воля» пацікавілася, што думае на гэты конт сам Мікола Статкевіч.*

– У мяне пакуль адбыліся толькі дзве сустрэчы, – *гаворыць Мікалай Віктаравіч.* – У Гомелі сабралася прыблізна 70 чалавек, у Магілёве прыйшло ўдвая менш. І мы не ставім перад сабой мэту сфатаграфаваць і «засвяціць» усіх, хто прыйшоў. Людзі і так баяцца прыходзіць на сустрэчы ў офісы дэмакратычных арганізацый.

**– Відаць, большасць прысутных – журналісты, актывісты дэмакратычных арганізацый…**

– Журналісты незалежных сродкаў масавай інфармацыі амаль не прыходзяць. У Магілёве, здаецца, быў журналіст з Радыё Свабода, але яго рэпартажу я нідзе не бачыў. Ведаю, што ў рэдакцыях некаторых СМІ ёсць загад на сустрэчы са Статкевічам не прыходзіць. Але ёсць новыя медыя – блогеры, стрымеры. І яны часта маюць большую аўдыторыю, чым большасць гэтых СМІ.

На магілёўскай сустрэчы не было актывістаў дэмакратычных арганізацый, акрамя сябраў «Народнай грамады» *(партыя, старшынёй якой з'яўляецца Мікалай Статкевіч, пазбаўлена ўнутранай рэгістрацыі, але прызнана ў свеце.* – ***М.К.***). Прыйшлі новыя людзі. З некаторымі мы абмяняліся кантактамі і будзем працаваць разам.

Звычайна на сустрэчы са мной прыходзяць адзін-два чалавекі ад «русского мира», і я думаю, што гэта таксама важна. Мы павінны размаўляць з усімі нашымі грамадзянамі, шукаць кропкі сутыкнення, каб не дапусціць грамадзянскага канфлікту.

Прыходзяць пенсіянеры, якім зараз даводзіцца выжываць. Прыходзяць індывідуальныя прадпрымальнікі, рабочыя, моладзь. Самыя розныя людзі.

На мой погляд, цудоўна, што гэтыя сустрэчы адбываюцца і што знаходзяцца тыя, хто не баіцца прыходзіць на іх.

**– Але ж з тых дваццаці-трыццаці чалавек, што да вас прыйшлі ў Магілёве, магчыма, чалавек пяць дакладна працуюць на спецслужбы…**

– А навошта так шмат службістаў? Дастаткова і аднаго, каб запісаць, што я кажу. Але ж я сваёй пазіцыі і не хаваю.

Дарэчы, самая вялікая праблема – гэта не сабраць людзей, а знайсці памяшканне для сустрэчы. Ну і калі ўжо зусім шчыра, то намаганні па прыцягненні людзей на гэтыя сустрэчы мы прыкладаем прапарцыянальна памеру памяшкання. Каб не атрымалася так, што людзі туды не трапяць.

Пакуль гэта падрыхтоўчыя паездкі. Думаю, праз некалькі месяцаў мы скарыстаемся магчымасцямі палітычных кампаній, якія праводзіць рэжым, каб мець масавыя сустрэчы ўжо на вуліцах гарадоў.

**– Некаторыя кажуць: было б добра, каб Статкевіч сустракаўся не з запіснымі актывістамі і некалькімі пенсіянерамі ў маленькіх апазіцыйных офісах, а з тым, хто працуе на фабрыках і заводах. З працоўным класам, між іншым, даволі рэдка бачацца апазіцыйныя палітыкі…**



– У тым і праблема, што ўлада спрабуе перашкодзіць наўпроставым кантактам з людзьмі. Ні на якія заводы яны не пусцяць. Таму я прыязджаю ў рэгіёны. Людзі ведаюць пра мой візіт. На сустрэчу можа трапіць любы жадаючы. Нават калі пабаяліся прыйсці, то могуць глядзець яе ў жывым эфіры праз стрымы, даведацца, што я гаварыў, якія пытанні мне задавалі. Колькасць праглядаў – дзясяткі тысяч.

Гэта як падчас масавых акцый на плошчы, калі некалькі соцень чалавек выходзяць на вуліцу, а за іх дзеяннямі праз стрымы ў сацыяльных сетках назіраюць сотні тысяч чалавек.

Сучасныя тэхналогіі даюць нам доступ да людзей.

**– Як думаеце, на беларускіх прадпрыемствах у вас шмат прыхільнікаў? Пытаюся, таму што з турмы вас сустракала шмат людзей. А дзе яны сёння? Чаму яны разам з вамі не прыходзяць на плошчу?**

– Вы ж ведаеце, што гэта патрабуе значна большай мужнасці, чым сустрэць палітвязня на вакзале.

Прывяду канкрэтны прыклад. Калі 7 красавіка я заклікаў людзей на плошчу Свабоды на малебен у абарону зламаных крыжоў у Курапатах, мяне прэвентыўна арыштавалі. І везлі ў Цэнтральны РУУС якраз праз плошчу Свабоды, літаральна хвілін за дзесяць да пачатку малебну. Я бачыў, некалькі соцень людзей на самой плошчы і разоў у пяць болей – навокал. Беларусы – партызаны. Большасць проста чакала, ці прыйдзе Статкевіч, ці дойдзе ён да прызначанага месца збору. І калі б я дайшоў да плошчы і павёў людзей, то, думаю, вы пабачылі б побач са мной нашмат больш людзей, чым мяне сустракала з турмы.

Людзі хочуць мяне бачыць, хочуць сустракацца са мной. І ўлада гэта таксама ведае. Таму і зрывае гэтыя сустрэчы. Улада разумее, што людзі мяне падтрымліваюць.

Мяне пазнаюць ва ўсіх месцах Беларусі. Пастаянна падыходзяць, кажуць словы падтрымкі. Людзі могуць прыходзіць альбо не прыходзіць на мае сустрэчы, але яны цікавяцца маёй пазіцыяй, ведаюць, што я раблю.

**– Дарэчы, вы першы з апазіцыйных палітыкаў распачалі сустрэчы з людзьмі ў рэгіёнах. Пра фармат, канешне, можна спрачацца, але факт застаецца фактам.**

– Вы кажаце, што мяне крытыкуюць за тое, што на сустрэчы са мной прыходзіць не так шмат людзей, а мне вось цікава: колькі чалавек прыходзіць на сустрэчы з іншымі апазіцыйнымі палітыкамі? І дзе адбываюцца гэтыя сустрэчы? Проста хацелася б параўнаць…

З усіх патрыятычных лідараў сёння я карыстаюся найбольшай падтрымкай. На жаль, з занадта вялікім адрывам ад астатніх, што нядобра для справы.

**– Заўважана: калі апытанні ў сацсетках наконт рэйтынгаў ці пазнавальнасці беларускіх апазіцыйных лідараў робіць памочнік Ганны Канапацкай, то лідзіруе яна. Калі апытанку ладзіць Анатоль Лябедзька ці нехта з яго прыхільнікаў, то на першае месца выходзіць былы лідар АГП. Таму ўсё вельмі адносна…**

– Так, ведаю. Таму самі мы такія галасаванні не праводзім. Але я выходжу ў лідары сярод альтэрнатыўных палітыкаў менавіта ў чужых апытанках. У апытанні Лябедзькі ў «Одноклассниках», дарэчы, таксама.

**– Але факты – рэч упартая. Чаму вашых прыхільнікаў няма побач з вамі на вулічных акцыях? Чаму на Кастрычніцкай збіраецца толькі купка дэманстрантаў?**

– Я вам нагадаю такую рэч: пакуль я пяць гадоў сядзеў у турме, у цэнтры Мінска апазіцыйныя партыі не правялі ніводнага мітынгу. На мой погляд, гэта ўжо не апазіцыйныя партыі, а нешта іншае… Нагадаю, што менавіта я вярнуў палітычны пратэст у цэнтр сталіцы. Гэты пратэст мае свае спады і пад'ёмы. Па маім закліку на плошчу выходзяць ад соцень да тысяч патрыётаў. А 25 сакавіка 2017 года выйшла вельмі шмат людзей, дзясяткі тысяч.

Зараз улады пачалі арыштоўваць мяне па дарозе на акцыі і гэта паўплывала на іх масавасць. Але цярпенне народа на сыходзе. Упэўнены, што хутка людзі самі масава выйдуць пратэставаць па ўсёй краіне, калі ўлада не пойдзе насустрач патрабаванням народа.

Палітычная апазіцыя павінна змагацца супраць дыктатуры, за свабоду, апазіцыйныя лідары павінны называць рэчы сваімі імёнамі. Але калі вы апошні раз чулі, каб кіраўнікі зарэгістраваных апазіцыйных партый рэзка выказваліся, крытыкавалі ўладу?

**– Ну можна, канешне, сказаць, што ўладу захапілі карупцыянеры і бандыты, але назаўтра страціш пасведчанне аб рэгістрацыі.**

– За персанальныя выказванні адказвае сама персона, а не арганізацыя. Гадоў 10 таму яны яшчэ не баяліся казаць праўду.

**– Дык за вашымі плячыма няма зарэгістраванай партыі. І таму ў вас крыху больш свабоды, чым у іх.**

– Дык што, для астатніх самае галоўнае – рэгістрацыя? Менавіта таму зараз, калі партыя мае дазвол на дзейнасць ад дзеючага рэжыму, то, значыць, улада перакanана: ніякіх непрыемнасцяў ад гэтай партыі чакаць не варта.

Але гаворка ідзе зусім не пра рэгістрацыю, а пра персанальны страх. Таму што некаторыя палітыкі, на жаль, даўно займаюцца захаваннем сябе, а не змаганнем з дыктатурай.

І яшчэ раз скажу пра 7 красавіка. Людзі так устроены, што ім патрэбны лідар, за якім яны пойдуць. І калі б мяне не затрымалі, гэтая тысяча чалавек, што чакала на бакавых вуліцах, пайшла б за мной. Улада гэта выдатна разумее. Таму і ізалюе мяне, робіць усё магчымае, каб не дапусціць майго з'яўлення на плошчы.

**– Некаторыя вельмі любяць павучаць палітыкаў, раіць, як ім лепш працаваць. Існуе меркаванне, што сапраўды лідар апазіцыі павінен займацца чарнавой работай. Яго не пускаюць у дзверы – ён павінен лезці ў акно, але дабівацца свайго.**

– Калі пачну грукацца ва ўсе дзверы, то мне проста не хопіць жыцця. Беларусь хоць і невялікая краіна, але некалькі мільёнаў неадчыненых дзвярэй тут маецца.

Інфармацыя аб маіх паездках адкрытая, я аналсую свае сустрэчы. Я шукаю падчас іх новых паплечнікаў ва ўсіх кутках Беларусі, каб праз іх арганізаваць масавую камунікацыю з народам.

Зараз 80 працэнтаў нашага грамадства перакананы ў тым, што краіне патрэбны перамены. Людзі хочуць перамен, новага лідара дзяржавы, рэформ, у тым ліку і эканамічных.

**– Пра перамены я з вамі пагаджуся, а вось пра 80 працэнтаў – не. Бо калі б сапраўды такая колькасць людзей хацела перамен, то яны ўжо даўно адбыліся б.**

– Гэта не мае лічбы, пра гэта сведчаць апублікаваныя вынікі сацыялагічных апытанняў. Наадварот, я не магу знайсці нідзе па краіне тыя 20 працэнтаў, якія былі б за захаванне гэтай улады. Недзе (акрамя ўлады, безумоўна) такія людзі ёсць, але зараз яны вельмі добра хаваюцца.

Дарэчы, колькасць незадаволеных істотна ўзрасла пасля разгонаў пратэстаў так званых дармаедаў.

Людзі чакаюць змены сітуацыі, вяртання Беларусі да дэмакратыі. Я прыхільнік мірных перамен. Але я бачу толькі адзін шлях для такіх перамен – працяглы масавы мірны пратэст. Сусветны досвед сведчыць: для арганізацыі змены ўлады праз мірны пратэст дастаткова, каб на вуліцу выйшлі 3–3,5 працэнта насельніцтва. І я працую, умоўна кажучы, з некалькімі дзясяткамі працэнтаў людзей, з тым каб атрымаць у рэшце рэшт вось гэтыя 3,5 працэнта, каб змяніць сітуацыю і прымусіць уладу вярнуць народу свабодныя і празрыстыя выбары.

Абіраць уладу, кантраляваць яе дзейнасць і мяняць кіраўніцтва краіны – гэта права кожнага з нас.

**– Дарэчы, пра перамены. Сёння многія гадаюць, якім будзе новы праект Канстытуцыі. На вашу думку, што рабіць, калі спраўдзяцца прагнозы наконт падаўжэння тэрміну прэзідэнцкіх паўнамоцтваў? Бо калі Канстытуцыя будзе ўведзена указам, то новы прэзідэнцкі тэрмін Лукашэнкі, відаць, пачне адлічвацца з нуля…**

– На мой погляд, Лукашэнка мяняе Канстытуцыю якраз таму, што баіцца выбараў. У яго няма ілюзій наконт уласнай папулярнасці.

Мы заклікаем уладу перайсці да дыялогу з грамадствам з мэтай вяртання сумленных выбараў.

Макей можа гаварыць Захаду, што змены ў Канстытуцыю неабходны для дэмакратызацыі. Сам Лукашэнка можа тлумачыць Пуціну, што Канстытуцыю мяняюць дзеля далейшай інтэграцыі. Некаторыя інтэлігенты могуць супакойваць сябе, што змены робяцца дзеля захавання незалежнасці і суверэнітэту, а палітыкі – што дзеля галасавання па партыйных спісах. Насамрэч можа быць усё гэта разам і адначасова нічога не значыць. Бо ўсё роўна Канстытуцыя не выконваецца, а галоўнае для чалавека, які займае пасаду кіраўніка дзяржавы, – абнуліць ды яшчэ павялічыць да 7 гадоў тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў.

Але канстытуцыйная рэформа можа вельмі моцна ўзбударажыць людзей. І нават калі мяне ў чарговы раз арыштуюць, каб не пусціць на плошчу, то людзі збяруцца і самі. Гэта можа быць нават горш для ўлады, бо тады сітуацыя можа выйсці з-пад кантролю. А я, паўтараю, усё ж такі прыхільнік мірных перамен.

**Марына КОКТЫШ.**

РАКУРС

## Як у Лідскай ПМК-169 у прафсаюз прымаюць…



*Рабочаму, які не пагадзіўся з тым, што яго без яго ведама прынялі ў шэрагі прафсаюза, прапанавалі напісаць заяву, што ён… не хоча ўступаць у грамадскую арганізацыю.*

Лідская ПМК-169 зараз задзейнічана на будаўнічых работах у Слоніме. Мясцовы жыхар **Алесь Масюк** уладкаваўся туды на працу. Атрымаўшы першы разліковы квіток, быў моцна здзіўлены: з заробку ў 400 з лішкам рублёў вылічылі 4 рублі на прафсаюзныя ўзносы.

Масюк сцвярджае, што нават і не чуў ні пра які прафсаюз, не пісаў ніякіх заяў і вусна ні з кім і словам не перакінуўся наконт уступлення ў шэрагі гэтай арганізацыі. Пацікавіўся ў іншых работнікаў, якіх прынялі на працу ў Слоніме, і аказалася, што і з іх заробкаў прафсаюзныя ўнёскі вылічылі.

Алесь пачаў цікавіцца ў прараба, а той скіраваў рабочага ў аддзел кадраў, які ў ПМК-169 займаецца прафсаюзнымі справамі. Там Масюк патлумачыў загадчыцы аддзела кадраў **Лідзіі Сям'ён**, што ні ў які прафсаюз не ўступаў, заявы не пісаў, і папрасіў, каб яму вярнулі вылічаныя грошы.

Спадарыня Сям'ён пачала пераконваць: маўляў, атрымаюць вашы дзеткі падарункі на святы, – але Масюк настойваў на сваім: парушана заканадаўства, і ён не пагодзіцца ўступаць у прафсаюз. Урэшце, паводле слоў Масюка, Сям'ён прапанавала яму напісаць заяву, што ён… не хоча быць у прафсаюзе.

*«Я, канешне, з розным у жыцці сустракаўся, але тут папросту не ведаў, што адказаць жанчыне*, – згадвае Алесь. – *Нават пачаў апраўдвацца, што такіх заяў ніхто не піша, чаму я павінен такое рабіць».*

«Народная Воля» таксама датэлефанавалася ў Лідскае ПМК-169 і пацікавілася ў Лідзіі Сям'ён, чаму ў іх арганізацыі работніка без заявы і яго згоды залічылі ў шэрагі прафсаюзаў. Аказалася, што пытанне не такое ўжо і складанае.

Лідзія Фёдараўна патлумачыла, што гэты чалавек занадта мудроны. Маўляў, кантора знаходзіцца за 100 кіламетраў ад Слоніма, і проста ўзяць і прывезці дакументы (маецца на ўвазе заяву) хутка не атрымліваецца, а таму прымалі дыстанцыйна.

Але мы яшчэ раз удакладнілі, што чалавек не пісаў заяву на ўступленне ў прафсаюз, у яго на гэта нават ніхто не прасіў вуснай згоды.

«*У нас першы такі чалавек, у нас такога ніколі не было,* – аргументавала спадарыня Сям'ён. – *Мы дзяржаўная арганізацыя, і ў нас стопрацэнтнае сяброўства ў прафсаюзных шэрагах. Чым ён яшчэ не задаволены?*»

На гэтым наша размова са спадарыняй Лідзіяй скончылася.

Праз дзень у рэдакцыю патэлефанаваў Алесь Масюк і паведаміў, што атрымаў новы разліковы квіток і ў ім ужо адсутнічаў радок «прафсаюзныя ўзносы».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

АФІЦЫЙНА

## Хто патрапіць пад амністыю?

Міністр унутраных спраў **Ігар Шуневіч** паведаміў, што зараз праект закона аб амністыі ў сувязі з 75-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў праходзіць узгадненне ў дзяржорганах.

Амністыя можа закрануць 6,5 тысячы чалавек. Прадугледжваецца, што на волю выйдуць больш за 2 тысячы чалавек. Пад амністыю патрапяць бацькі-адзіночкі, якія выхоўваюць непаўнагадовых дзяцей, інваліды, ліквідатары наступстваў Чарнобыльскай аварыі, цяжарныя жанчыны, пэўная катэгорыя асоб, якія ўпершыню ўчынілі злачынствы. Разам з тым амністыя не закране карупцыйныя артыкулы, асабліва цяжкія злачынствы, у тым ліку забойствы.

ЛЮДЗІ ПРАЦЫ

## «Без прэміі выходзіць тысяча рублёў у месяц…»

*Даяркі з перадавых гаспадарак Магілёўскай вобласці распавялі «Народнай Волі», як ім жывецца і працуецца.*

26 сакавіка Аляксандр Лукашэнка наведваў аграхолдынг «Купалаўскае» ў Шклоўскім раёне, дзе вырашыў азнаёміцца з умовамі ўтрымання буйной рагатай жывёлы. У выніку беларускі кіраўнік быў вельмі абураны тым, што ўбачыў, пасля чаго страцілі свае пасады некаторыя высокія чыноўнікі Магілёўскай вобласці.

Натуральна, на выставе «Белагра-2019», якая гэтымі днямі праходзіць у Мінску, прадстаўнікоў «Купалаўскага» мы не ўбачылі. Магілёўская вобласць прадстаўлена іншымі гаспадаркамі, і мы вырашылі пацікавіцца: як там працуецца даяркам?

«*На комплексе ў нас 1300 галоў дойнага статку, таму працы хапае*, – працягвае Таццяна. – *Кожны год на выставе ў Мінску выбіраецца лепшая карова, і ў мінулым наша Афрадыта заняла другое месца. Зараз Розу прывезлі галштынскай пароды, спадзяёмся, што таксама будзе не апошняя. Што пра яе можна сказаць? Спакойная, 40 літраў малака дае ў суткі. І такая разумная, як сабака ходзіць па слядах за гаспадаром. Дарэчы, лепшая карова Беларусі будзе вызначацца па 18 параметрах – ад пастановы капыт да надояў*».

Таццяна Сакалоўская пакуль не замужам, жыве з

– У мяне трое дзетак.




**Таццяна САКАЛОЎСКАЯ**, работніца ААТ «Рассвет» імя Арлоўскага Кіраўскага раёна, распавядае, што нарадзілася яна ў Кіраўску і адразу пасля 9-га класа пайшла працаваць на ферму.

«*У мяне і мама мела дачыненне да сельскай гаспадаркі, і дзядуля з бабуляй*, – кажа жанчына. – *Праўда, шчыра скажу: даіць карову навучылася толькі пасля таго, як працаўладкавалася. Жыццё прымусіла і навучыла. У нас у сям'і было пяцёра дзяцей, таму трэба было малодшых сясцёр і братоў на ногі падымаць. Адразу працавала вартаўніком, а зараз і ацёл прымаю, і цялятак даглядаю*».

Калгас «Рассвет», якім у свой час кіраваў Герой Сацыялістычнай працы Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў, быў знакамітым на ўвесь Саюз, і, паводле слоў маёй суразмоўцы, традыцыі захаваліся.

бацькамі і кажа, што заробку ёй на жыццё хапае:

«*У сярэднім у месяц выходзіць 400 рублёў чыстымі. Некаторыя больш атрымліваюць, хтосьці менш. Але мяне ўсё задавальняе. Тым больш што мой працоўны дзень – з 10 гадзін раніцы і да шасці вечара*».

– Я прыехала ў Мінск на конкурс з каровай Ракетай, яна першацёлка, – дадае **Аксана ПЕЧАНАВЕЦ** *(на фота)*, даярка РУП «Вучгас «Беларуская дзяржаўная сельгасакадэмія» (Горкі). – Таксама дае 40 літраў малака ў дзень.

**– Які ў вас стаж працы даяркай?**

– Тры гады. Да гэтага працавала ў сістэме камунальнай гаспадаркі, але трапіла пад скарачэнне, таму з біржы працы прыйшла на ферму. Першыя паўгода было надзвычай складана, а на ферме патрэбны і вопыт, і цярпенне.

Ведаеце, каровы ласку любяць, яны ж прызвычайваюцца да аднаго гаспадара. І ты да іх таксама прызвычайваешся.

**– Як і да графіка працы?**

– Натуральна. У нас першае даенне – у 5 гадзін раніцы, таму трэба прыстасоўвацца. Хаця ўвогуле працуецца добра – і прэміруюць, і матэрыяльную дапамогу аказваюць, і на заробкі грэх скардзіцца. Асабіста ў мяне атрымліваецца без прэміі каля тысячы рублёў у месяц, праўда, працую не толькі даяркай, але і на ацёле. Даяркі, напэўна, менш маюць – 600–700 рублёў.

**– А ці вялікая ў вас сям'я?**

– У мяне трое дзетак. Старэйшая дачка вучыцца ў педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, меншым сынам – 5 і 11 гадоў. Муж працуе ў прыватнай фірме, займаецца мэбляй.

Увогуле, хачу сказаць, што моладзь не вельмі імкнецца працаваць на ферме. Не хочуць заставацца, відаць, баяцца цяжкасцяў. А можа, думаюць, што ў Горках менш перспектыў.

Але ў мяне нават у думках не было змяніць месца працы. Гэта ж цуд, калі з'яўляюцца на свет новыя цялятки, і ты бачыш, як яны растуць на тваіх вачах. Наша карова, дарэчы, у мінулым годзе заняла трэцяе месца на выставе, і я разумею, што ў гэтым таксама ёсць частка і маёй працы.

«*Каб перамаглі ў гэтым годзе!*» – жадаю напрыканцы гутаркі сваім суразмоўцам.

«*Вашымі малітвамі*», – кажуць мне даяркі ў адказ.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛІСТЫ З ПАЛЕССЯ

# Дзе Рубель, туды і капейка коціцца

## Гадавальнік святароў

Вандруючы па Століншчыне, я час ад часу паўтараў, як прыказку, радок з верша Пімена Панчанкі: «А на Палессі ўсё нядробна». І сапраўды, па самым доўгім у Беларусі мосце цераз Прыпяць вы трапляеце ў найвялікшы па плошчы раён, дзе практычна няма дробных паселішчаў, дзе што ні вёска, то міні-княства са сваёй даўняй гісторыяй і сучаснай спецыфікай.

У парніковай рэспубліцы Альшаны мы ўжо пабывалі. У сталіцу айчыннага ганчарства Гарадную завіталі. На чарзе – вёска Рубель, якая па вядомасці ў рэгіёне не адстае ад сваіх папярэдніц. Па-першае, доўгі час беларускай супервёскай быў менавіта Рубель (меў да 7000 жыхароў), гэта потым пальму першынства ў яго перахапілі Альшаны. Па-другое, Рубель славіцца як радзіма праваслаўных святароў. Дайце веры: прыблізна кожны чацвёрты бацюшка ў Беларусі – рубелец! Праверана па даведніку Беларускага Экзархата – у штаце БПЦ на сёння налічваецца 240 святароў, чыя малая радзіма – вёска Рубель.



Айцец Пётр Ліпскі.

Як гэта вытлумачыць? Скажам, Альшаны – агурковая мека, бо там урадлівыя чарназёмы. Гарадная забяспечвала посудам усё Палессе, бо там радовішчы белай, прыдатнай для ганчарства, гліны. А вось чаму Рубель стаў гадавальнікам святароў? Прычым у часы, калі бліжэйшая духоўная семінарыя знаходзілася за 1000 кіламетраў, у тагачасным Ленінградзе. Па чыёй волі бацюшкі раслі тут, як грыбы пасля дажджу? Што тут было вырашальным – кан'юнктура ці сапраўды Божае пакліканне?

## Дзіцячы садок – як замак

У цэнтры Рубля адразу кідаецца ў вочы не царква (як можна было б чакаць), а трохпавярховая школа і нейкі двухвежавы замак непадалёк ад яе. З выгляду – як рэзідэнцыя Стэфана Баторыя, у якой хапіла б месца і світе караля, і дружыне, і дворні. Якое ж было маё здзіўленне, калі тая каралеўская рэзідэнцыя аказалася… дзіцячым садком. Прызнацца, з такім размахам збудаваных садкоў раней мне бачыць не даводзілася, нават у сталіцы.

Скіроўваюся ў мясцовы сельвыканкам, каб упэўніцца, што дзіцячы садок не выкупіў які-небудзь прываблены назвай вёскі альшанскі алігарх, каб разбудаваць яго ў пяцізоркавы гатэль. Нездарма ж у народзе кажуць: дзе рубель, туды і капейка коціцца.

Старшыня выканкама **Раіса Філановіч** яшчэ год таму працавала загадчыцай таго самага садка, таму з усмешкай мяне супакойвае – багацеі мясцовыя на дзіцячую ўстанову не пакваляцца. А вось рубельскі калгас нядаўна выкупіў прыватны прадпрымальнік Аляксей Копец. Ці будзе пры ім лепш – пакуль гаварыць рана. Але зрухі ёсць – у суседняй вёсцы Хотамель новы гаспадар ужо будуе жывёлагадоўчы комплекс, дойных кароў будзе ўтрымліваць.

Цікаўлюся: якая ў Рублі дэмаграфічная сітуацыя? Ну, раз такі садок збудавалі. Аказваецца, ён быў спраектаваны даўно, доўга чакаў фінансавання і нарэшце патрапіў у дзяржаўную праграму па адраджэнні Палесся. Пакуль садок-замак узвялі, дзетак у Рублі (як і паўсюдна ў рэгіёнах) з кожным годам стала нараджацца ўсё менш. Але і з улікам гэтай тэндэнцыі вёска ўсё яшчэ шматлюдная. На сённяшні дзень у ёй пражывае 3243 жыхары. Праўда, у Рубельскі сельсавет уваходзіць яшчэ суседні Хотамель з 1200 насельнікамі. Жыхароў працаздольнага ўзросту ў Рублі 910 чалавек, астатнія пенсіянеры, дзеці. Раней маладыя рубельцы больш ахвотна заставаліся ў роднай вёсцы, цяпер пераважна раз'язджаюцца. На заробкі. Хто ў Расію, хто ва Украіну, хто ў далёкае замежжа. *«Не расталіся б мы з нашым краем, / каб было дзеля нас у ім хлеба»*, – з сумам цытуе былая настаўніца Раіса Філановіч Максіма Багдановіча і з гонарам дадае, што ў Рублі ёсць вуліца паэта. А яшчэ тры названы імёнамі Францішка Скарыны, Янкі Купалы і Якуба Коласа.

## Дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся

Рубельская тапаніміка мне як бальзам на сэрца, але карціць усё ж даведацца пра дзве роты бацюшак. Можа, у Рублі маецца нейкая адмысловая аранжарэя, дзе іх гадуюць, як кактусы ў Батанічным садзе? Можа, над Рублём па вечарах узыходзіць віфлеемская зорка і промнем паказвае на чарговую хату, дзе мае нарадзіцца будучы святар? Старшыня сельвыканкама паціскае плячыма і прапануе сустрэцца з настаяцелем мясцовай царквы айцом **Пятром Ліпскім** (вядома ж, рубельцам).

У чаканні святара аглядаю рубельскія храмы. Іх два. Праз дарогу ад новазбудаванай цаглянай Успенскай царквы ўзвышаецца драўляны Свята-Міхайлаўскі храм-помнік, якому больш за 200 гадоў. «Так, ён вельмі стары, пабудаваны яшчэ ў 1796 годзе, – удакладняе, падышоўшы, зычліва настроены айцец Пётр (як высвятляецца, даўні падпісчык «Народнай Волі»). – І, што істотна, наша царква ніколі не зачынялася, нават у часы ваяўнічага атэізму. Калі пачалася перабудова і людзі масава пайшлі на службы, яна не ўмяшчала ўсіх вернікаў. І ў 1991 годзе было вырашана збудаваць больш прасторную царкву. Яе ўзвялі ўсяго за два гады, у 1993-м ужо асвяцілі. Настаяцелем тады быў айцец Аляксей Міхлюк, пры ім усё рабілася. Я ж прыйшоў сюды ў 1994-м і да гэтай пары тут служу, вось ужо чвэрць стагоддзя. Як кажуць, дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся. Тут мяне ўсе ведаюць, і я ўсіх ведаю».

Айцец Пётр – адзін з 240 святароў-рубельцаў, але і ён не мае вычарпальнага тлумачэння, чаму яго вёсцы было наканавана стаць калыскай сучаснага беларускага праваслаўя. Па дарозе з новай царквы ў старую мой суразмоўца няспешна расказвае: «У нас амаль у кожнай сям'і святар – калі не бацька, то сын ці зяць, калі не дзяды, то ўнукі. Я свайго бацьку не памятаю, ён памёр, калі мне і двух гадоў не было. Святаром стаць я вырашыў ужо ў сталым веку, калі за 30 пераваліла. Кім толькі не быў да гэтага! Сіротамі ж раслі, ездзіў у Сібір на заробкі, трэба ж было трох сясцёр замуж выдаваць. Потым у войску служыў. Маладосць прайшла, па́ра выйшла, пачаў над жыццём задумвацца. А выхадзец з нашай вёскі служыў святаром у Віцебску. І я паехаў да яго, вучыўся пры царкве. Потым быў на святарскіх курсах, потым семінарыя ў Жыровічах адкрылася».



Звыклы для Рубля транспарт.

## Архістраціг Міхаіл за 40.000 долараў

Усцешна, што святары-рубельцы не забываюцца на сваю родную вёску, на першую сваю царкву. Прыязджаючы на святы дамоў, просяць дазволу ў айца Пятра адслужыць ва Успенскім храме. Прыемна ж, калі родныя пабачаць. Айцец Пётр з радасцю дазваляе. А сёлета каля старога храма будзе ўсталявана скульптурная выява Архістраціга Міхаіла. Яна ўжо адліта з бронзы, матэрыял і ўся работа каштавалі ажно 40.000 долараў. Грошы сабралі святары-рубельцы, якія служаць не толькі ў нашых Чашніках, Валожыне і Ушачах, але і ў замежных Разані, Белгарадзе і Санкт-Пецярбургу. Асабліва спрычыніўся да добрай справы сакратар Віцебскай епархіі Уладзімір Рэзановіч. Святары зрабілі складчыну на знак удзячнасці роднай вёсцы, дзе Гасподзь спадобіў іх паслужыць на ніве Божай.

У рубельцаў адметная мова. На разору яны кажуць *борона*, на насенне – *семанá*, на бульбяную кашу – *товпэня*. Айцец Пётр улічвае моўную сітуацыю і пропаведзі прамаўляе на рубельскім дыялекце, каб было больш зразумела. Ён ведае і шануе народныя песні, кажа, што на святарскіх бяседах айцы з Гараднай як зацягнуць «Расла верба каля грэблі» ці «Біла мяне маці бярозавым прутам», то хоць квіткі на канцэрт прадавай.

Каваным ключом айцец Пётр адчыняе мураваную браму з надпісам «1938», і мы заходзім у старую царкву. Двойчы Рубель быў знішчаны пажарам, у 1932-м і 1944-м, а яе агонь не крануў. Нават фартушкі на крыжах вакол храма не загарэліся. А ўжо адносна нядаўна ў царкоўны купал ударыў пярун. Маланка прайшла па трыццаціметровым ланцугу, на якім вісела панікадзіла, апаліла пад ім падлогу і сышла ў зямлю. Царква магла ўспыхнуць, як свечка, але зноў ацалела.

Пад лесвіцай я заўважаю стары звон з адбітай бакавінай. Аказваецца, у маі 1945 года званар рубельскай Свята-Міхайлаўскай царквы з такім імпэтам абвяшчаў пра перамогу над немцам-супастатам, што раскалоў звон. Царкоўная рада спачатку меркавала аддаць яго на пераплаўку, але потым вырашыла захаваць як своеасаблівы артэфакт. Як на мой розум, месца таму звону трэба вызначыць самае пачэснае, хай сабе і пры алтары.

## Пра рубельскую шляхту

Яшчэ адна адметнасць Рубля – коні. Конскія запрэжкі снуюць па вуліцах не радзей, чым аўтамабілі. Цок-цок, цок-цок – цокаюць падковы па асфальце. Пад гэтую прызабытую музыку айцец Пётр, штохвілінна раздаючы направа і налева «добры дзень», пералічвае рубельскія «мікрараёны» – Вялікі Лес, Машлякі, Салабаі, Тураза, Заполле, Зарэчча, Прагон, Стрэхі, Калёды… У палове з іх жыла шляхта, у палове – мужыкі. І паміж імі была калісь варажнеча. Дзед святара, шляхцюк Цюхай-Ліпскі, быў першым, хто адважыўся ўзяць замуж мужычку. «Згадайце «Пінскую шляхту» Дуніна-Марцінкевіча, там сюжэт ну проста з рубельскага жыцця спісаны, – тлумачыць мой суразмоўца, – пісьменнік жа бываў у нас на Століншчыне, дзе і нагледзеўся на фанабэрыстых шляхцюкоў. А яны адрозніваліся ад мужыкоў толькі тым, што мужыкоў па рашэнні суда на голай лаве розгамі лупцавалі, а шляхцюкам дыванок падсцілалі».

Дзялюся з айцом Пятром сваім даўнім клопатам. Ужо шмат гадоў я шукаю звесткі пра святара Васіля Чыкіду, які на пачатку 1980 гадоў служыў у Зэльве, быў духоўнікам Ларысы Геніюш. «Айцец Васіль – яшчэ малады святар, але мае тыя ўласцівасці, што з-пад яго рук аднаўляюцца храмы і ўсё, да чаго ён дакранецца, а словы выклікаюць роздум у людзей і часта слёзы», – пісала паэтка ў лісце да свайго маладзейшага сябра Васіля Быкава. 10 красавіка 1983 года Васіль Чыкіда адпяваў рабу Божую Ларысу ў зэльвенскай царкве, а потым яго сляды згубіліся недзе на Палессі.

Айцец Пётр неяк дзіўна глядзіць на мяне і ўсміхаецца. Аказваецца, Васіль Чыкіда служыў у той самай Свята-Міхайлаўскай царкве, каля якой мы стаім! А пахаваны ён у Тураве, адкуль быў родам. Вось дык навіна! Ужо дзеля аднаго гэтага варта было ехаць у слаўны Рубель.

На развітанне рубельскі святар прызнаецца, што сябруе з «Народнай Воляй» з першага нумара. За што мясцовая ўлада пэўны час лічыла яго апазіцыянерам. «Мяне і цяпер, бывае, уладыка папракае: не перашкаджай уладам працаваць. А хіба я перашкаджаю? Калі людзям нешта набалела, то мяне часам просяць пагаварыць з уладай. Я не магу адмовіцца, хоць мая справа – царква. Дарэчы, Рубель, відаць, адзіная вёска, дзе аж чатыры канфесіі афіцыйна зарэгістраваны – праваслаўныя, баптысты, пяцідзясятнікі і адвентысты сёмага дня. А каталікі (іх у Рублі ўсяго некалькі) да нас у царкву ходзяць. І хрысцяцца, і прычашчаюцца ў мяне. Мы ўсе тут дружна жывём, талерантна, як нашы продкі ў Беларусі спрадвеку жылі», – падсумоўвае айцец Пётр.



Рубельскі дзіцячы садок.

## Паклон настаўніку

Не пачуўшы ад святара адказу на галоўнае пытанне, я сустракаюся з народжаным у Рублі настаўнікам **Віктарам Вабішчэвічам**, які больш за трыццаць гадоў выкладае гісторыю ў Давыд-Гарадоцкай СШ №1. Паводле яго падлікаў, з Рубля паходзіць больш за 300 святароў, калі браць пад увагу ўсе часы. «У нас ніколі не перарывалася традыцыя веры ў Бога, – разважае Віктар, – і вера гэтая была сапраўдная. Маіх землякоў так жыццё вяло, хлопцы найчасцей ішлі ў святары пры камуністычнай уладзе. Звычайна яны служылі ў Сібіры, дзе панаваў ваяўнічы атэізм і такая прафесія была непапулярнай. Сёння рубельцы ў святары ідуць значна радзей. Трэба сказаць, што для нас, рубельцаў (як і ўвогуле для палешукоў), характэрны нейкі неўсвядомлены нацыяналізм. Не ў савецкім, а ў еўрапейскім разуменні гэтага слова. Мы разумеем – мы з Рубля, мы размаўляем на сваёй мове, мы добра ведаем свае карані і пра сваё «я» нідзе не забываем: ні ў Варшаве, ні ў Маскве, ні ў Кіеве, ні ва Уладзівастоку».

А яшчэ я заўважыў, што ў Рублі не любяць гаварыць пра рублі. У сэнсе – назву вёскі стараюцца не звязваць з грашыма. Рубельцам куды бліжэй той рубель, якім уціскаўся воз з сенам. Маўляў, мы тут спрадвеку каровак трымалі і сена касілі. А ўзімку ў нарыхтоўшчыкі дроў запісваліся – секлі-рубілі ельнікі, вось і ад дрывасецкага *руб-ель* магла атрымацца назва.

Прыслухоўваўся я да той народнай этымалогіі і думаў: хітруюць рубельцы. Асабліва з чужакамі, якія невядома чаго швэндаюцца па вёсцы і пра ўсё выпытваюць. Чужыя рублі лічаць, сваімі прыказкамі капеечнымі сыплючы. З такімі вуха трэба трымаць востра...

Пакідаючы Рубель, я міжволі стаў сведкам кранальнай сцэны. Перад рубельцам Віктарам Вабішчэвічам, які праводзіў мяне да аўто, раптам стаў на калені маладзён, што праходзіў міма. Выглядала тое трохі экзальтавана, але – шчыра. Укленчыў і сказаў: «Віктар Васільевіч, вы былі ў маім жыцці найлепшым настаўнікам, і я вам за гэта кланяюся!»

Ці часта вам даводзілася бачыць настаўнікаў, перад якімі вучні становяцца на калені проста на вуліцы?

Дай Божа, каб гэткую ж шчырую пашану заслужылі ад сваіх прыхаджан усе 240 рубельскіх святароў!

**Міхась СКОБЛА.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Марка да юбілею...

*Міністэрства сувязі і інфарматызацыі выпускае ў абарачэнне паштовую марку «Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр анкалогіі і медыцынскай радыялогіі імя М.М.Аляксандрава. Жыццё варта таго, каб за яго змагацца». Гэтая марка адкрывае і новую серыю «Дасягненні беларускай медыцыны».*

У выдавецкім цэнтры «Марка» РУП «Белпошта» кажуць, што такі выбар медустановы для старту серыі – невыпадковы. Па-першае, РНПЦ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі – самая буйная даследчая медустанова краіны, тут штогод праходзяць дыягнастычныя даследаванні і атрымліваюць лячэнне больш за 11 тысяч пацыентаў, і ў гэтым годзе РНПЦ адзначае свой юбілей – 60-годдзе з дня ўтварэння. Па-другое, падкрэслівае начальнік выдавецкага цэнтра Ірына Шыпілава, *«спадзяёмся, што гэтая серыя будзе мець поспех, таму што тэма*




*медыцыны папулярная ў філатэлістаў, маркі такой тэматыкі добра раскупляюцца».* Як прыклад, Ірына Валер'еўна прыводзіць гісторыю маркі «Хірург Клумаў». Яна была выдадзена да 125-годдзя з дня нараджэння выдатнага хірурга тыражом больш за 70 тысяч, хутка разышлася і сёння ўжо лічыцца калекцыйнай.

На 2020 год запланаваны выпуск наступнай маркі з серыі «Дасягненні беларускай медыцыны». Якая ўстанова будзе на лагатыпе, пакуль не вядома. *«Будзем прыслухоўвацца да рэкамендацый Міністэрства аховы здароўя,* – кажа Ірына Шыпілава. – *Гэта можа быць і РНПЦ кардыялогіі, і РНПЦ транспланталогіі, і РНПЦ афтальмалогіі».*

Што тычыцца першай маркі, то старт продажу будзе дадзены 7 чэрвеня ў сталічнай краме «Філатэлія», там жа на працягу дня будзе праводзіцца спецыяльнае гашэнне на канверце «Першы дзень». Таксама 7 чэрвеня прэзентацыя маркі адбудзецца і ў самім РПНЦ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі. Чакаецца, што ўдзел у мерапрыемстве возьме міністр аховы здароўя Валерый Малашка.

Дарэчы, тыраж першай маркі з серыі «Дасягненні беларускай медыцыны» – 40 тысяч.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

БЫВАЕТ...

# Азарт подвел под уголовную статью

33-летний мужчина из г.п.Радошковичи давно увлекался интернет-лотереей. Очевидно, надеялся, что однажды крупно повезет и он основательно разбогатеет. А тут на Центральной площади Молодечно он нашел банковскую карту. Стал проверять ее баланс через мобильное приложение электронной лотереи. Выяснил, что карточка отнюдь не пустая, и перевел с нее на свой игровой аккаунт 80 рублей. Наверное, решил, что фортуна ему наконец улыбнулась.

Правда, оказалось, что не улыбка то была у окаянной, а гримаса. Вскоре после того, как на найденной карте осталось всего три рубля, а любитель интернет-лотерей сунул ее в карман и пошел по своим делам, в Молодечненский РУВД обратилась взволнованная молодая женщина. Сообщила, что потеряла банковскую карту во время прогулки с двухлетним сынишкой, а кто-то уже ею воспользовался: снял упомянутую выше сумму.

Молодечненская милиция вычислила этого гражданина. В отношении него возбудили уголовное дело по части 2 статьи 212 УК Республики Беларусь «Хищение путем использования компьютерной техники». Максимальное наказание – до пяти лет лишения свободы.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

СЛЫШАЛИ?

# У Венесуэлы конфисковали тонны золота за долги

*Немецкий банк Deutsche Bank конфисковал у Венесуэлы 20 тонн золота. Об этом сообщает Bloomberg со ссылкой на знакомые с ситуацией источники.*

В 2016 году Венесуэла получила в банке кредит наличными в размере 750 миллионов долларов, 20 тонн золота были переданы в финансовую организацию в качестве залога. Срок выплаты кредита должен был истечь в 2021 году, однако Каракас не выполнил условия договора и пропустил процентные платежи. Из-за этого Deutsche Bank принял решение конфисковать золото и погасить обязательства досрочно.

Представители банка отказались комментировать ситуацию.

По данным издания, представители оппозиции Венесуэлы ведут переговоры с Deutsche Bank и просят выплатить им 120 миллионов долларов. Политики считают, что эта сумма покрывает разницу в цене золота, которая увеличилась с момента его приобретения. Оппозиция хочет получить эти деньги на отдельный счет, к которому действующий президент страны **Николас Мадуро** не будет иметь доступа

Как известно, ситуация в Венесуэле обострилась 23 января, когда лидер оппозиции **Хуан Гуайдо** на фоне массовых акций протеста объявил себя временным президентом. Его легитимность признали США, ряд стран Латинской Америки и Европы. Россия поддержала Николаса Мадуро.

II ЕВРОПЕЙСКИЕ ИГРЫ

## Гостям предложат альтернативный отдых

Минский городской комитет природных ресурсов и охраны окружающей среды к Европейским играм, которые пройдут в столице с 21 по 30 июня, разработал экологический путеводитель по столице.

В брошюре содержатся сведения о природоохранных территориях города, экологических тропах, способах добраться до этих мест, сообщает minsknews.by.

Таким образом гостям и участникам соревнований решили предложить альтернативный вариант досуга в столице.

## Без Алины…

Определился состав сборной Беларуси по легкой атлетике на Европейские игры-2019.

На соревнованиях выступят: Эльвира Герман, Анастасия Мирончик-Иванова, Татьяна Холодович, Максим Недосеков, Кристина Тимановская, Виталий Парахонько, Станислав Дорогокупец, Руслана Рашкован, Алексей Лазарев, Марина Михан, Юлия Костючкова, Марина Арзамасова, Ян Слома, Виолетта Скворцова, Игорь Зубко, Александр Василевский, Илья Карнаухов, Андрей Скобейко, Кристина Мулярчик, Максим Граборенко, Дарья Борисевич.

Отметим, что в списке отсутствует известная белорусская барьеристка Алина Талай.




Соревнования по легкой атлетике пройдут на минском стадионе «Динамо» с 21 по 28 июня.

## Уникальные экспонаты

С 21 июня по 14 июля в Минске смогут увидеть крупнейшую частную коллекцию олимпийских наград и медалей.

Это частная коллекция российского бизнесмена Владимира Потанина, который приедет в Беларусь специально к Европейским играм. Широкой публике выставка будет представлена впервые.

В Минск приедет наиболее интересная с исторической точки зрения часть коллекции. На выставке будут представлены награды Олимпийских игр первой половины XX века, включая первую Олимпиаду современности 1896 года в Афинах и XV Олимпийские игры в Хельсинки 1952 года, в которых впервые приняла участие сборная СССР.

Аукционная стоимость наградных медалей – от 2 тысяч до 250 тысяч долларов.

## Зарубежным болельщикам игры не особо интересны

На соревнования продано около 130 тысяч билетов. Из общего числа болельщиков, которые намерены посетить соревнования, гости из-за рубежа составляют всего 10--15 процентов. Из них наиболее активные покупатели – россияне, но, как отметили в дирекции, ожидаются гости из Ближнего Востока, Азии, Северной Америки, Африки и Австралии.

## Отрепетируют

Генеральная репетиция церемонии открытия Европейских игр на стадионе «Динамо» в Минске пройдет 19 июня.

Сейчас идет монтаж оборудования, сводные репетиции начнутся 15 июня, а 19-го – генеральная, в которой будут задействованы 3 тысячи волонтеров.

УРАЖАННІ

# Украіна ўшаноўвае Васіля Быкава

Няма прарока ў сваёй Айчыне! Не раз узгадалася мне гэтая біблейская мудрасць у час нядаўняга наведвання Міжнароднага кніжнага кірмашу «Книжковий Арсенал» у Кіеве. Пакуль мы, беларусы, думаем, як ушанаваць вядомага ва ўсім свеце класіка найноўшай беларускай літаратуры Васіля Быкава, украінскія выдаўцы годна сустракаюць яго 95-годдзе. Знакамітае кіеўскае выдавецтва «Знання» (выдае падручнікі, украінскую мастацкую літаратуру, сусветную літаратурную класіку ў перакладзе на ўкраінскую мову і іншае) на кніжным кірмашы прэзентавала адразу тры кнігі Васіля Быкава. У выдавецкай серыі «Класна література» ўбачылі свет «Знак біди» (пераклад Дмытра Піліпчука) і «Альпійська балада» (у перакладзе Галіны Вігурскай), у найбольш «важкай» серыі «Голоси Європи» – «Мертвим не болить» (пераклала Таццяна Кабржыцкая). У анатацыях да кніг, звернутых да сучаснага чытача, слушна сказана: «Быкаў Васіль Уладзіміравіч – адзін з найвядомейшых празаікаў Еўропы… Творы Быкава – гэта суровая салдацкая памяць пра вайну, паводзіны людзей, якія трапляюць у крытычныя сітуацыі выбару. Аповед пісьменніка абапіраецца на дасканалае веданне псіхалогіі, абсалютную адсутнасць любога надрыву, перабольшання, агрэсіўнасці ці жаласнай сентыментальнасці. Яго творы прымушаюць задумацца над сэнсам жыцця, маральнымі пастулатамі, абуджаюць у нашых душах чалавечнасць».

У межах «Книжкового Арсеналу» прайшлі некалькі знакавых акцый, прымеркаваных да юбілею Васіля Быкава і да выхаду яго кніг. У прыватнасці, у зале «Exlibris» адбылася прэзентацыя першага поўнага выдання на ўкраінскай мове рамана




«Мёртвым не баліць» (раман – так украінцы даволі слушна вызначылі жанравую адметнасць гэтага твора). Твор гэты, як вядома, калісьці з вялікімі цяжкасцямі ўбачыў свет: пасля з'яўлення яго ў арыгінале («Маладосць», 1965, №№7,8) і ў перакладзе на рускую мову («Новый мир», 1966, №№1,2) ён не мог быць надрукаваны ў СССР звыш 20 гадоў. Ды і калі з'явіўся, то з цэнзурнымі пропускамі, скажэннямі. У тым выглядзе ў перакладзе Таццяны Кабржыцкай твор выйшаў (таксама з немалымі цяжкасцямі) і ва Украіне – спачатку ў часопісе «Вітчизна», а ў 1990 г. – асобнай кнігай у выдавецтве «Дніпро». Выданне тое, нягледзячы ні на што, парадавала В.Быкава, пра што сведчаць яго словы ўдзячнасці перакладчыцы, зафіксаваныя ў дакументальнай кнізе «Доўгая дарога дадому». Цяпер жа, пасля выдання ў 2014 г. нястомным Сяргеем Шапранам варыянта твора ў тым выглядзе, у якім яго хацеў бачыць сам аўтар (узноўлены дзве сотні купюр!), і ва ўкраінцаў з'явілася патрэба прачытаць «Мёртвым не баліць» без купюр. У чым і дапамагла ім тая самая перакладчыца па просьбе «Знання»...

У прэзентацыі, якая выклікала вялікую цікавасць наведнікаў кніжнага кірмашу, бралі ўдзел апрача Т.Кабржыцкай і аўтара гэтага допісу вядомыя ўкраінскія пісьменнікі – Герой Украіны Дмытро Паўлычка, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры ўкраінскай літаратуры Кіева-Магілянскай акадэміі Уладзімір Панчанка, дырэктар выдавецтва «Ярославів Вал» Міхайла Слабашпіцкі (ён вёў прэзентацыю), а таксама галоўны рэдактар «Знання», ініцыятар і арганізатар многіх быкаўскіх выданняў Уладзімір Разумны. Паколькі амаль усе ўдзельнікі прэзентацыі не толькі добра знаёмы з творчасцю В.Быкава, але і не раз сустракаліся з ім, гутарка пра агульначалавечую сутнасць кнігі «Мёртвым не баліць» пашырылася да жывых успамінаў пра Васіля Уладзіміравіча, яго наватарскую і несмяротную творчасць, неабходнасць увекавечання яго імя як у Беларусі, так і ў іншых краінах, пра беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі наогул і іншае.

Пра В.Быкава, яго ўкраінскія выданні і творчасць увогуле вялася размова і ў вялікай, на цэлую гадзіну, радыёпраграме пісьменніцы Лесі Варонінай са «Студыі прамога эфіру» (ёсць і такая студыя, такая радыёпраграма на «Книжковому Арсеналі»). І беларусам, і Д.Паўлычку (ён таксама згадзіўся ўзяць удзел у перадачы) радыёслухачы ў час размовы даволі актыўна задавалі пытанні, на якія часам няпроста было адказаць. Але – адказвалі. І ўсе былі задаволены.

Мне і Т.Кабржыцкай падобныя пытанні задавалі і студэнты-беларусісты падчас сустрэчы, арганізаванай дацэнтам БДУ, а цяпер выкладчыцай беларускай мовы Інстытута філалогіі Нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі Ірынай Караткевіч. Творчасць В.Быкава студэнтам вядомая яшчэ са школы («Альпійская балада» ўключана ў школьную праграму), ва ўніверсітэце яны дасканала вывучаюць усю яго прозу.

Увогуле, дзе б мы ні былі, з кім бы ні гаварылі, адно ўпамінанне прозвішча В.Быкава выклікала зацікаўленую размову. І гэта не дзіўна, асабліва сёлета, у год, калі мы адзначаем не толькі 95-гадовы юбілей пісьменніка, але і 75-годдзе вызвалення Беларусі і Украіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Той Украіны, якую і ён геpаічна вызваляў, дзе пры вызваленні – на Кіраваградчыне – быў паранены ды толькі цудам і намаганнямі простай украінкі застаўся жыць. Дзе канчаткова зразумеў: толькі мёртвым не баліць. А жывым павінна балець! Калі не цела, то душа. І за мінулае, і за сённяшняе.

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ



# 50 фактаў пра бел-чырвона-белы сцяг

*(Заканчэнне. Пачатак у №№40, 41, 42, 43.)*

**45. 4 кастрычніка 1991 года.** Была сфарміравана адмысловая камісія пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета для распрацоўкі і зацвярджэння дзяржаўнай сімволікі, атрыбутыкі і адпаведных дакументаў да іх. У яе ўваходзіла больш за 20 чалавек: вядомыя гісторыкі, мастакі, дызайнеры, мастацтвазнаўцы. Узначаліў камісію дэпутат **Алег Трусаў**.

У мастацкую групу ўвайшлі **Яўген Кулік, Мікола Купава, Лявон Бартлаў, Леў Талбузін і Уладзімір Крукоўскі**. Праца працягвалася амаль тры месяцы. У рабоце над эталонамі маторам усёй акцыі быў мастак Яўген Кулік. Над гербам найбольш давялося працаваць Куліку і Крукоўскаму. Талбузін займаўся навершам сцяга, а потым, калі былі гатовы графічны і каляровы эталоны, пачаў ляпіць рэльеф (аб'ёмны эталон). Купава рабіў узоры дзяржаўных пячатак, Крукоўскаму давялося яшчэ зрабіць новы нагрудны знак дэпутата.




**48. 20 ліпеня 1994 года.** Пад бел-чырвона-белым сцягам адбылася інаўгурацыя першага прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

**46. 1993 год. Выйшла** кніга **Вінцука Вячоркі** з ілюстрацыямі **Пятра Драчова** для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Пра герб і сцяг». Кніга разышлася накладам больш за сто тысяч. З таго часу не перавыдавалася.




Вокладка кнігі «Пра герб і сцяг», 1993 год.

**47. 27 ліпеня 1994 года.** Адзначаецца Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Піша **Юрый Малярэўскі**:

«Дзень незалежнасці 27 ліпеня 1994 года быў адметны ад папярэдніх тым, што адчувалася сапраўднае свята. У кожнага яно было сваё, але было і нешта агульнае, што ў той дзень яднала ўсіх. Таму ў святочных калонах ішлі такія розныя і да болю знаёмыя людзі, якія адчувалі сябе грамадзянамі адной дзяржавы. Паглядзіце на здымкі: тры бабулі, пагодкі Кастрычніка 17-га, святое духавенства, якое, як і належыць, было ў той дзень поруч са сваімі вернікамі (хоць і не зусім поруч, але ж непадалёку), шчаслівы Зянон Пазьняк, разважлівы, задуменны Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін… Эх, як бы хацелася, каб тое хлапчанё, што ўмасцілася на бацькавым карку з бел-чырвона-белым сцяжком, за які яшчэ не вельмі даўно нам давалі (і зараз зноўку даюць) паспытаць «гумы з чаромхай», пачувала сябе беларусам, годным чалавекам ды сапраўдным патрыётам сваёй Бацькаўшчыны! Каб і праз сто, і праз дзвесце гадоў, і праз цэлую вечнасць нашчадкі годна адзначалі светлае свята – Дзень незалежнасці (але не ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў!), прамаўляючы вечныя словы: «Жыве Беларусь!».




Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Фота Юрыя Малярэўскага. 1994 год.

**49. 31 мая 2013 года.** Выйшла музычная складанка «Сімвалы веры і свабоды», якая прысвечана бел-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня».




Вокладка складанкі «Сімвалы веры і свабоды». 2013 год.

**50. Кастрычнік 2013 года. Алег Трусаў і Аляўціна Вячорка** перадалі ў рэдакцыю «Арт Сядзібы» арыгіналы негатываў, першыя фотаздымкі і дакументы, з якіх у 1991 годзе друкавалася і тыражавалася дзяржаўная сімволіка Рэспублікі Беларусь, а таксама першыя акты аб прыняцці сцяга і герба.




Фотаздымкі макетаў, з якіх друкавалася дзяржаўная сімволіка, 1991 год.

ЗВАНОК У РЭДАКЦЫЮ

# Калі наступіць канец свету…

*Сустрэўся з даўнішнім знаёмым. Ён кажа: «Чуў пра візіт Папы Францішка ў Румынію? Ён там гаварыў пра канец света…»*

*Паколькі я апошнім часам працую ў двух месцах і няма часу цікавіцца навінамі, то скажыце, калі ласка: што, Папа Францішак сапраўды гаварыў пра канец свету?*

**Іван ГАЎРЫЛЬЧЫК.**

*Мінск.*

Ваш знаёмы, спадар Гаўрыльчык, мабыць, меў на ўвазе сустрэчу Папы Францішка з моладдзю і сем'ямі ў румынскім горадзе Ясы. Ён там працытаваў прароцтва аднаго святога пустэльніка, які на такое пытанне некалі адказаў: «Калі зарастуць сцяжынкі паміж суседзямі». Сэнс разваг Папы на гэты конт наступны: канец свету наступіць тады, «*калі больш не будзе хрысціянскай любові і разумення паміж братамі, сваякамі, хрысціянамі і народамі! Калі людзі перастануць любіць адзін аднаго, тады наступіць канец свету, бо без любові і без Бога ніводны чалавек не можа жыць на зямлі*».

